


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (1080) БЕЛАСТОК 7 ЛІСТАПАДА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

# ДНІ ПОЛЬСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ НА БЕЛАРУСІ



*Дэлегацыя польскіх пісьменнікаў ля помніка Янкі Купалы.*

Ад 6 да 13 кастрычніка на Беларусі праходзілі Дні польскай літаратуры. Удзельнічала ў іх дэлегацыя польскіх пісьменнікаў. Аднаго з членаў дэлегацыі — **Аляксандра Амільяновіча** мы папрасілі расказаць нашым чытачам аб гэтым мерапрыемстве.

— Дні польскай літаратуры на Беларусі прайшлі з вялікім размахам, — гаворыць пісьменнік. — Усюды, у гарадах, на заводах і ў калгасах адбываліся розныя мерапрыемствы, звязаныя з польскай літаратурай, якія паказвалі яе, знаёмілі з ёю. Газеты, радыё і тэлебачанне штодзённа інфармавалі аб гэтым. Магу сказаць, што ўся Беларусь жыла „Днямі".

Цэнтральная ўрачыстасць адбылася ў Мінску. Распачалася вялікай акадэміяй 6 кастрычніка ў зале Філармоніі. Праграму вечара запоўнілі польскія і беларускія артысты. На другі дзень у Мінскім Палацы Мастацтва адбылося адкрыццё выстаўкі польскай кнігі — 3 тысячы кніг на польскай мове і ў перакладзе на беларускую. Велізарнае зацікаўленне! Выстаўкі і кірмашы польскай кнігі адбываліся ў кожным горадзе. Нас затрымлівалі людзі, прасілі падпісаць кніжку, недзе купленую, а калі не было кніжкі, то прасілі хоць даць аўтограф. Мы пераканаліся, якое вялікае зацікаўленне праяўляецца на Беларусі да польскай літаратуры і культуры. Вельмі многія чытаюць папольску. На адкрыццё выстаўкі ў Палацы Мастацтва прыйшлі тысячы мінчан. Усе хацелі купіць польскую кніжку, пагаварыць з польскімі пісьменнікамі.

**— Дэлегацыя польскіх пісьменнікаў праехала амаль усю Беларусь. Этапы гэтага падарожжа?**

— Хатынь. Вялікі помнік усім загінуўшым людзям і вёскам беларускай зямлі. Несамавітае ўражанне! Салігорск. Горад беларускіх шахцёраў. Цудоўная, мілая сустрэча з гарнякамі. Навагрудак. Сіняя Свіцязь. Новы помнік Адаму Міцкевічу і ўдзел у вечары „Братэрства літаратур".

10 кастрычніка наша дэлегацыя раздзяляецца на дзве групы. Адны ў Магілёў, а я — на граніцу Віцебшчыны. Дзяўчаты апаясваюць нас прыгожымі беларускімі ручнікамі, частуюць караваем і просяць на танцы, тут жа, на шашы. Кожны з нас танцаваў пад гукі калгаснага аркестра. Ходзім па горадзе, на выстаўцы польскіх кніг падпісваем кнігі. Сардэчная атмасфера. Потым Наваполацк. Гораду 18 год, і ў ім 100 тысяч жыхароў. Вялікая хімія, горад маладых, горад вучоных. У непасрэднай сустрэчы з хімікамі хутка ляціць час, а потым наведваем польскіх рабочых — будаўнікоў нафтаправода, адна нітка якога пойдзе з Наваполацка ў Польшчу. Вечар „Братэрства народаў — братэрства літаратур" у Палацы нафтавікоў. З Наваполацка ў Оршу. Затрымліваемся ля манумента ў гонар першага залпа кацюш, які даў капітан Флёрэн у 1941 годзе. Потым пасёлак Горкі і Леніна. Дэлегацыі сустракаюцца. Кладзем вянкі ля помніка савецка-польскай баявой садружнасці ў Леніна і наведваем у Горках 150-гадовую Сельскагаспадарчую акадэмію, у якой вучыцца цяпер 12 тысяч студэнтаў з 47-мі краін.

(Працяг на стар. 2)




Роўна пяць год таму назад я пабываў у Доме савецкай культуры ў Варшаве, на вуліцы Фоксаль 10, і ў выніку гэтага паявіўся тады мой артыкул „Для дабра дружбы і адзінства" („Ніва" ад 7 лістапада 1971 г.). І вось я зноў пераступаю парог прыгожага будынка, у якім працуюць ветлівыя і сардэчныя людзі, напярэдадні пятнаццацігоддзя гэтага заслужанага цэнтра савецкай культуры ў Польшчы. З пытаннямі звяртаюся да дырэктара ДСК **Ялены Пятроўнай Лебядзінскай.**

**— Якія матэрыялы аб Савецкім Саюзе ёсць у Доме?**

— Тут у нас знаходзіцца самая багатая ў Польшчы бібліятэка рускай і савецкай літаратуры, якая налічвае каля 70 тысяч экземпляраў кніг, а таксама ўсе цэнтральныя газеты і часопісы, што выходзяць у СССР. Маем таксама прыгожую і абшырную выставачную залу, у ёй дэманструюцца шматлікія выстаўкі па мастацтву, народнай творчасці, навукі і тэхніцы і многіх іншых дзялянках жыцця нашай краіны.

**— А што ў галіне сцэнічнага мастацтва, фільма і музыкі?**

— Таксама і гэтыя галіны нашай дзейнасці прадстаўлены багата і разнастайна. Маем вялікую канцэртную залу, на сцэне якой імкнемся паказаць хоць выбранае з багаццяў многанацыянальнага савецкага мастацтва. Прытрымліваемся прынцыпу, што культура кожнай нашай рэспублікі мае роўныя правы, а таксама кожны савецкі калектыў ці саліст, які прабывае ў Польшчы, абавязкова павінен выступіць на нашай сцэне. Толькі ў адным выпадку нам гэта не ўдалося. Калі ў Польшчы выступаў балет Беларускага тэатра оперы і балету з Мінска, у праграме якога было славутае „Стварэнне свету", ён карыстаўся такім аграмадным поспехам, што ў яго проста не хапіла часу выступіць у нашым Доме. У нас ёсць багатая фільматэка мастацкіх і дакументальных савецкіх фільмаў, разам звыш пяці тысяч твораў, сярод іх знаходзяцца таксама працы „Беларусьфільма". На фільмы прыходзіць вельмі многа заявак са школ, дамоў культуры, прадпрыемстваў і ўстаноў з усяе Польшчы. А кожную суботу для любіцеляў савецкага фільма дэманструюцца навінкі савецкага кіно — дакументальныя і мастацкія фільмы. Вядзем мы таксама і тэматычны паказ фільмаў, напрыклад, на тэмы „Насустрач XXV з'езду КПСС", „Вобраз моладзі ў савецкім кіно" і шэраг іншых. Маем багатую фонатэку рускай, савецкай музыкі і музыкі народаў рэспублік Савецкага Саюза, у тым ліку многа запісаў беларускай музыкі. Зборы нашай фонатэкі выкарыстоўваюць польскія самадзейнікі, якія рыхтуюцца да конкурсу савецкай песні ў Зялёнай Гуры, маладзёжныя музыкальныя клубы, студэнты вышэйшых музыкальных школ не толькі з Варшавы, але і з іншых гарадоў Польшчы. Цяпер мы рыхтуем спецыяльны музыкальны салон, ён будзе ўладаннем любіцеляў савецкай музыкі.

**— Якія формы працы работнікаў Дома савецкай культуры?**

Працяг на стар.4

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



### УВАГА, ЦІКАВЫ КОНКУРС!

## ЧЫТАЙЦЕ „БЕЛАВЕЖЦАЎ"!

Адкрывайце для сябе і іншых новую старонку ў сучаснай беларускай літаратуры — творчасць аўтараў, што пішуць пабеларуску ў Народнай Польшчы! Вас чакаюць цікавыя знаходкі ў гэтай творчасці, навеянай пералівучатым звонам сярбрыстых хваляў Буга, Нарвы і Бобры, адвечным шумам дрымучай Белавежы, шэптам спелага калосся на нашых беластоцкіх нівах...

Галоўнае праўленне БГКТ, Ваяводская публічная бібліятэка ў Беластоку і рэдакцыя „Нівы" аб'явілі чытальніцкі конкурс **„Знаёмімся з сучаснай беларускай літаратурай".** Мэтай яго з'яўляецца папулярызацыя сучаснай беларускай літаратуры, вышаўшай у Народнай Польшчы. У ім могуць прымаць удзел усе, каму споўнілася чатырнаццаць год, за выключэннем настаўнікаў і студэнтаў беларускай філалогіі. **Конкурс працягваецца ад месяца кастрычніка 1976 г. да кастрычніка 1977 г.** Праходзіць ён будзе на двух этапах — гмінным і ваяводскім.

Гмінныя элімінацыі будуць праводзіць гмінныя публічныя бібліятэкі супольна з гурткамі БГКТ да **30 верасня 1977 года.** Аб вашым удзеле ў конкурсе паведаміце кіраўніку гміннай бібліятэкі, дзе вы пражываеце, да 1 сакавіка 1977 г. Да гмінных элімінацый кожны ўдзельнік павінен прачытаць творы беларускіх пісьменнікаў Народнай Польшчы, што ўваходзяць у адзін з выбраных вамі камплектаў кніжак, якія пададзены ў спецыяльных правілах конкурсу, што знаходзяцца ў кіраўніка вашай гміннай бібліятэкі. На гмінных элімінацыях выказванні ўдзельнікаў конкурсу будзе ацэньваць 3-асабовая камісія, у склад якой будуць ўваходзіць

(Працяг на стар. 2)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76



*Выступае трыо з Новай Волі. III месца сярод вакальных груп у катэгорыі фальклорнай песні.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## ШТО НОВАГА?

### ТРАГЕДЫЯ ВЫПУСКНІКОЎ ШКОЛ

Беспрацоўе было і застаецца праблемай нумар адзін ў Вялікабрытаніі.

Упершыню за пасляваенны перыяд армія беспрацоўных у Англіі дасягнула 1 мільёна 250 тысяч чалавек. Асаблівую трывогу выклікае масавае беспрацоўе сярод моладзі. Выступаючы ў палаце абшчын, адзін з міністраў заявіў: „Трагедыя выпускнікоў школ заключаецца ў тым, што іх чаканні і ідэалы рушацца, як толькі яны выходзяць за вароты школы".

Як паказаў апошні падлік, больш чым 15 тысяч маладых людзей, якія скончылі універсітэты і іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы, не маюць работы.

Газета „Морнінг стар" паведаміла нядаўна, што, згодна з прагнозамі міністэрства фінансаў, узровень беспрацоўя ў бліжэйшы час перавысіць два мільёны чалавек. Калі гэты прагноз спраўдзіцца, то становішча маладых людзей стане зусім безвыходным.

Цяпер урад Вялікабрытаніі распрацаваў „праграму стварэння рабочых месц". Яе мэта — спыніць рост беспрацоўя ў краіне, перш за ўсё сярод выпускнікоў школ.

Аднак да гэтага часу ўсе намаганні, якія прыкладае ўрад, зваліся да таго, што з 580 000 школьнікаў, якія скончылі навучальныя ўстановы гэтым летам, часовую работу атрымалі толькі 50 000 чалавек. Астатнім пагражае працяглае беспрацоўе, адзначае „Гардыян".

Выступаючы нядаўна ў палаце абшчын, міністр фінансаў Д. Хілі паведаміў, што ўрад збіраецца выдзеліць дадатковыя асігнаванні для стварэння яшчэ 20 000 рабочых месц, галоўным чынам для выпускнікоў школ. Але нават, калі гэта будзе зроблена, лёс пераважнай большасці выпускнікоў англійскіх школ застанецца незайздросным.

### ФЕЛЬДФЕБЕЛЬ ВУЧЫЦЦА ВУЧЫЦЬ...

„Агульнавайсковыя педагагічныя курсы бундэсвера" ...Назва, здольная ўвесці ў зман. Аднак размова ідзе зусім не аб новай ваеннай прафесіі. У апублікаваным з гэтага выпадку спецыяльным загадзе міністэрства абароны ФРГ гаварылася, што камандаванне бундэсвера вырашыла прадставіць магчымасць „вопытным унтэр-афіцэрам прайсці ў паскораным парадку курсы педагагічных навук". Закончыўшыя атрымаюць дыплом, які прыраўноўвае іх у правах да выкладчыкаў і выхавацеляў сярэдніх школ-інтэрнатаў і некаторых іншых навучальных устаноў.

Мясцовыя газеты іранічна пракаменціравалі ініцыятыву міністэрства абароны, напомніўшы, што ў сувязі са скарачэннем расходаў на адукацыю і пры няспынным росце ваенных асігнаванняў у ФРГ пастаянна павялічваецца колькасць беспрацоўных настаўнікаў.

### З УЛІКАМ ПСІХАЛОГІІ

Крочачы ў нагу з часам і ростам злачыннасці, прадпрымальныя амерыканскія бізнесмены звярнулі свае позіркі на псіхалагічныя аспекты праблемы крадзяжоў і ўзломаў. У многіх гарадах ЗША цяпер прадаюцца спецыяльныя сігнальныя прыстасаванні, якія ўзнаўляюць гукавыя эфекты — ад лаянкі дамачадцаў і галасоў дзяцей да шэпту закаханых мужа і жонкі. Мяркуецца, што гэта апаратура, уключаная ў час адсутнасці гаспадароў, адгоніць злачынцаў.

Папулярнасць новых прыстасаванняў пераўзышла ўсе чаканні. „Гэты бізнес, як і тэмпы росту злачыннасці, працвітае па ўсёй Амерыцы", — сцвярджае Чарльз Шнабалк, адзін з вынаходнікаў новых сістэм бяспекі ў Нью-Йорку. У Атланце, напрыклад, продаж прыбораў павялічыўся на 300 працэнтаў, у Бастоне — на 20, у Дэтройце — на 50. А ў Сан-Францыска, дзе за 6 месяцаў гэтага года колькасць крадзяжоў з узломам узрасла на 11 працэнтаў, кампанія па вырабу сігнальных прыстасаванняў прадала сваёй прадукцыі ў 10 разоў больш, чым у мінулым годзе.

Аб зніжэнні крадзяжоў дзякуючы гэтай „новай хвалі" ў прыборабудаванні амерыканская статыстыка пакуль што нічога не паведамляе...

(Працяг са стар. 1)

## Чытайце „белавежцаў"!

дзіць працаўнікі бібліятэк, настаўнікі або прадстаўнікі маладзёжных арганізацый і актыў БГКТ. На гмінных элімінацыях кожны ўдзельнік будзе гаварыць аб 1-2 прачытаных творах ці зборніках з выбранага ім самім камплекта. На гэтых жа элімінацыях камісія выбярэ 1-2 прадстаўнікоў гміны да ўдзелу ў ваяводскіх элімінацыях.

Ваяводскія элімінацыі конкурсу адбудуцца ў Беластоку, і праведуць іх ГП БГКТ супольна з Ваяводскай публічнай бібліятэкай і рэдакцыяй „Нівы" да **30 кастрычніка 1977 г.** Яны будуць двухступенныя: на ўступнай пісьмовай усе ўдзельнікі атрымаюць 5 аднолькавых пытанняў па творчасці і дзейнасці „белавежцаў", на фінальнай жа ступені ўдзельнік будзе адказваць па вылясаванаму ім білету, у якім будзе 3 пытанні па прачытаных ім творах.

Удзельнікаў конкурсу, а таксама яго арганізатараў у гмінах чакаюць каштоўныя ўзнагароды.

**Прыступайце да конкурсу!**

Патрабуйце ў вашай бібліятэцы камплектаў кніг з творамі беларускіх пісьменнікаў Народнай Польшчы! Такія камплекты могуць набыць бібліятэкі і індывідуальныя асобы ў ГП БГКТ, Беласток, вул. Варшаўская 11.

Чытайце нашых „белавежцаў"! Варта пазнаёміцца з тымі літаратурнымі творамі, што паўсталі на нашай Беласточчыне, побач з намі, у нашыя часы і на нашых вачах! (іс)

## Дні польскай літаратуры на Беларусі

(Працяг са стар. 1)

Ад Леніна — да Горак мы ў той дзень пачалі садзіць Алею Дружбы. Кожны дрэўца пасадзіў. Адбыўся мітынг і быў адкрыты абеліск, на якім па-беларуску і па-польску напісана, што 12 кастрычніка 1976 года распачалася пасадка Алеі Дружбы. 13 кастрычніка вяртаемся ў Мінск. Яшчэ адна сустрэча, і нашы калегі — беларускія пісьменнікі праводзяць нас на вакзал.

**— І вывады?**

— Хоць прайшло крыху часу, я застаюся пад вялікім уражаннем прайшоўшых Дзён польскай літаратуры на Беларусі. Дасканалая арганізацыя, незвычайная сардэчнасць, з якой мы сустракаліся на кожным кроку, увага да польскай літаратуры і яе творцаў, знаёмасць гэтай літаратуры сярод усіх — і дзеячоў культуры і рабочых, цёплыя словы, калі чалавек затрымае цябе і кажа: „Я чытаў вашу кніжку", і ўрэшце — славянская гасціннасць.

Асабіста я знайшоў пацвярджэнне, каторы ўжо раз, факту, што дружба наша непарушная і што прымае яна ўсё новыя формы.

Я ведаю савецкіх людзей. Разам з імі сядзеў у нямецкіх лагерах, быў салдатам І Беларускага фронту і ўжо больш як 20 год пішу пра супольныя нашы справы. Быў не раз у СССР. Кожная сустрэча дае многа. Але асабліва апошняя пабыўка ўзбагаціла мае веды аб вялікім суседзе і аб цудоўных, працавітых, мудрых савецкіх людзях.

Запісала **Вера Валкавыцкая**



*Прывітанне польскіх пісьменнікаў на граніцы Віцебшчыны.*

## Наш каляндар

## Міхась Чарот

Яму па праву належыцца ў беларускай літаратуры ганаровае званне песняра Вялікага Кастрычніка.

Міхась Чарот (сапраўднае прозвішча — Міхась Кудзелька) нарадзіўся 7 лістапада 1896 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Рудзенск Пухавіцкага раёна на Міншчыне. Потым пра сваё дзяцінства ён скажа: *„Як нарадзіўся, дык мне напісалі: жыць на вёсцы і быць пастухом"*. Але вясковаму хлопцу пашанцавала: пасля двухкласнай сельскай школкі трапляе ён у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Аднак і *„тут аднеслі мяне,* — прыгадвае ён пазней, — *да разраду мужыкоў, якія не ўмелі гаварыць як трэба, для якіх патрэбна была палка, а не сродкі вольнага выхавання..."* І не дзіва, што семінарыст пачынае шукаць адказу на хвалюючыя яго праблемы ў „мужыцкай" беларускай паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа, а затым і сам спрабуе свайго пяра, наследуючы іх. З дыпломам настаўніка ў кішэні не ўдалося яму стаць перад вучнямі, каб фармаваць юныя характары і ўводзіць іх у свет навукі, — яго апранаюць у шынель і адпраўляюць на фронт першай сусветнай вайны. Але гэта ўжо быў ракавы 1917 год, і М. Чарот замест гніць у акопах, прымае ўдзел у салдацкім рэвалюцыйным руху. Вярнуўшыся з арміі, ён падаецца на вучобу ў Мінскі педагагічны інстытут, але з прыходам у беларускую сталіцу войск Пілсудскага накіроўваецца ў партызаны. Пасля вызвалення Беларусі, з 1920 года, ён цалкам аддаецца літаратурнай творчасці, культурнай і грамадскай працы.

З-пад пяра М. Чарота выходзяць адзін за адным вершы, у якіх ён услаўляе героіку рэвалюцыі і працоўных будняў і кліча да таго часу, калі „ўвесь свет засвяткуе Вялікі Дзень Вечнага Мая". У 1921 г. піша славутую паэму „Босыя на вогнішчы" — узнёслае усхваленне рэвалюцыі і мужнасці простага народу. Гэты твор зрабіў у тагачаснай беларускай літаратуры сапраўдную рэвалюцыю, як творчасць У. Маякоўскага ў рускай літаратуры. У выніку захаплення М. Чарота тэатрам, вучобы ў беларускай тэатральнай студыі ў Маскве і цеснай сувязі з тэатрам У. Галубка паяўляюцца яго п'есы „Мікітаў лапаць", „Слуцкая варона", „На Купалле" і шэраг іншых. У іх ён працягваў традыцыі дакастрычніцкай беларускай драматургіі (В. Марцінкевіча „Пінская шляхта", К. Каганца „Модны шляхцюк", Я. Купалы „Прымакі") і ўзбагачаў іх новымі матывамі, што ўнесла ў жыццё Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя („Сон на балоце"). Шматграннасць літаратурнага таленту М. Чарота выявілася і ў тым, што ён сваімі апавяданнямі (зборнік „Веснаход") сказаў важкае новае слова таксама і ў беларускай прозе. І гэта ўсё ў адзінай плыні і амаль у адным часе, разам з актыўнай культурна-грамадскай дзейнасцю яго як стваральніка і кіраўніка першай у Беларусі літаратурнай арганізацыі „Маладняк".

Памёр паэт 14 снежня 1938 года.

Некалькі зборнікаў вершаў, шматлікія паэмы, захапляючыя апавяданні, ігра на сцэне (між іншым, ён надта любіў выконваць ролю Мікіты ў сваёй п'есе „Мікітаў лапаць"), праца з маладымі паэтамі і асноўнае — захапленне новым савецкім жыццём — вось уклад М. Чарота ў беларускую літаратуру. *„Мы шмат вучыліся ў М. Чарота, яго сапраўды дынамічнай, багатай рэвалюцыйным пафасам паэзіі"*, — скажа потым ад імя свайго пакалення творцаў выдатны сучасны беларускі паэт Пятрусь Броўка. (іс)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 6.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. Mat. 6.30 Tech. Rol. Mech. rol. 9.00 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o czł. Proces odżywiania. 10.00 (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.10 Jesienne kwiaty — film fab. jug. 13.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 15.45 Red. Szk. zap. 15.55 Pr. dnia 16.00 Dla dzieci. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Sobota Mł. 17.50 Bądź z nim szczęśliwa — film fab. radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Pr. rozr. 22.15 Dziennik. 22.30 Film fab.

☆

**Niedziela 7.XI.** 6.15 Tech. Rol. Fiz. 6.45 Upr. rośl. 7.15 Now. w domu i zagr. 7.40 Sport. 7.45 Pr. dnia. 7.50 Trans. Defilady Wojsk. w Moskwie. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 11.05 Zdobycie Meksyku — film dok. fr. Wielkie bitwy historii. 12.00 Dziennik. 12.25 TYLKO W NIEDZIELĘ. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 TYLKO W NIEDZIELĘ.

☆

**Poniedziałek 8.XI.** 12.45 RTV Szk. Śred. J. pol. 13.25 Hist. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.50 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr TV: A. Suchowo-Kobylin — Małżeństwo Kreczyńskiego. 22.20 Pr. muz. 22.45 Dziennik.

☆

**Wtorek 9.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. J. pol. 6.30 Hist. 9.00 Dla szkół. (kl. I lic.) J. pol. J. Kochanowski — Odprawa posłów grec. 10.00 (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.10 Wojna i pokój — film ser. ang. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przyp., radz. 17.05 Studio Mł. 18.00 Z wizytą w Moskwie — pr. muz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Niebieski ptak — film fab. wł. 22.15 Roman Kłosowski — Szwejk — rep. 22.35 Dziennik.

☆

**Środa 10.XI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 9.00 Dla szkół. (kl. VI) Fiz. O równowadze. 9.30 Niebieski ptak — film fab. wł. 12.00 Dla szkół. (kl. VI) Chem. Ważne ferment. 12.45 RTV Szk. Śred. Chem. 13.25 Tech. Rol. Upr. roślin. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Interstudio. 18.15 Pr. publ. kult. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Dziewięć dni jednego roku — film. fab. radz. 22.35 Na wielkim ekr. 22.50 Dziennik.

☆

**Czwartek 11.XI.** 6.00 RTV Szk. Śred. Chem. 6.30 Tech. Rol. Upr. roślin. 10.00 Dla szkół (kl. VI) Hist. — Wielcy mistrzowie. 10.30 Dziewięć dni jednego roku — film fab. radz. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przyp., radz. 17.05 Turniej z Bratkiem. 18.10 Patrol. 18.35 Śpiewa Nicoletta. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Pani w samochodzie w okularach i ze strzelbą — film fab. fr. 22.25 Pegaz. 23.10 Dziennik.

☆

**Piątek 12.XI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 9.00 Dla najmł. (kl. III) W dawnej stolicy Polski. 9.15 Pani w samochodzie w okularach i ze strzelbą — film fab. fr. 12.00 Dla szkół. (kl. VIII) Wych. ob. Wojewoda. 12.45 RTV Szk. Śred. Mat. 13.25 Biolog. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Dla mł. widzów. Białe pióro — film fab. pol. 18.00 Inf. Wyd. 18.20 Eureka. 19.00 Dobranoc. 19 30 Dziennik. 20.40 Pryzmat — film fab. TVP. 22.10 Dziennik. 22.25 Jedno krótkie lato — film fab. ang.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 5.XI.** — 7.30 Filmy anim. 8.00 Film fab. 9.15 Piosenka — 76. 13.15 Film fab. 14.55 Akademia i koncert pośw. Rewolucji Październikowej. 19.30 Hokej. Skrzydła Rad (M) — Spartak (M). 2 i 3 terc. 20.45 Sala tańców.
**Sobota 6.XI.** — 10.50 Film fab. 12.00 Hokej. CSKA — Dynamo (M). 14.15 W świecie zwierz. 15.15 Gimnastyka art. 16.15 Filmy anim. 17.15 Śpiewa M. Magomajew. 17.30 Spektakl.
**Niedziela 7.XI** — 7.50 Defilada na Pl. Czerwonym. 15.00 Film fab. 16.30 Klub film. 17.30 Rep. z defilady pośw. Rew. Październik. 19.00 Błękitny płomyk.

## КІНО

**Białowieża** Ewakuacja — radz. 9—10. Ballada o żołnierzu — radz. 11—12. Król Lear — radz. 13—14.

**Bielsk Podl.** Rozerwany pierścień — radz. 8—9. Dojrzałe grona — radz. 10—11. Bądź z nim szczęśliwa — radz. 12—13. Premia — radz. 14.

**Czeremcha** Trzpiotki — radz. 9—10. Lecą żurawie — radz. 13—14.

**Czyże** Dzieci Don Kichota — radz. Staroświecki dramat — radz. 10—14.

**Dubicze Cerkiewne** Rezydent wywiadu — radz. Porucznik jazdy — radz. 10—14.

**Gródek** Chłopiec z gitarą — radz. 13—14.

**Hajnówka** Spóźniona miłość — radz. 8. Ani słowa o futbolu — radz. 9—10. Rozerwany pierścień — radz. 11—12. Afonia — radz. 13—14.

**Kleszczele** Przygody Buratino — radz. 9—10. Tajemniczy mnich — radz. 11—12. Żenia, Żenieczka i Katiusza — radz. 13—14.

**Michałowo** Bohater naszych czasów — radz. 9—10. Białe słońce pustyni — radz. 11—12. Pierwsza Bastylia — radz. 13—14.

**Mielnik** Ostatnia gra Karima — radz. 10. Ojciec żołnierza — radz. 13—14.

**Milejczyce** Wołga — Wołga — radz. 9—11. To niemożliwe! — radz. 11—14.

**Narew** Mroźny poranek — radz. Ostatni lot — radz. 10—14.

**Narewka** Rzeka płynie dla zakochanych — radz. Chewzburska ballada — radz. 10—14.

**Nurzec** Gracz — radz. 9—10. Wołga—Wołga — radz. 11—12. Premiera — radz. 13—14.

**Orla** Człowiek bez paszportu — radz. Wiryneja — radz. 10—14.

**Rajsk** Los człowieka — radz. Arcymistrz — radz. 10—14.

B.Z.Graf. Zam. 2555 F-4

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 214

## Блізкасць далёкага

ПЯТАЕ

*О светлая мая,*
*Ліпнёвая мадонна,*
*Знімі мне з сэрца*
*Зімнюю трывогу,*
*Што нёс я за табою*
*Па святых загонах,*
*Пайду ў пошуках*
*Загубленага бога.*
*Усё, усё, усё*
*У гарадах забыта,*
*І толькі куча грошай,*
*Сытага багацця —*
*Целу усё!*
*Душа — разбітае карыта.*
*Рэшткі сумлення —*
*Маё горкае распяцце.*
*Мадонна палявая,*
*Можа я цыганю,*
*Мо я сягонняшні,*
*Ды ж гэта я ўчарашні.*
*Прыйшоў я крывадушна*
*Ў палявое ранне,*
*Каб ашукаць,*
*Каб зноў пакрыўдзіць*
*Цябе страшна,*
*Ды не цябе,*
*А толькі зноў сябе, як гіцаль,*
*Няшчыра, мабыць,*
*Я вярнуўся на загоны.*
*Хацеў у грудзі*
*Кулаком я пабажыцца,*
*Ды зазвінела там*
*Не сэрца, а чырвонец.*

ШОСТАЕ

*Вецер рубаў з пляча*
*Галовы каласам,*
*То зноў шаптаў, шаптаў*
*Малітвы сінія.*
*У полі ліпеньскім*
*Жыла-была краса,*
*Замкнутая лясной,*
*Далёкай лініяй.*
*О божа!*
*Дай мне слоў,*
*Так простых, як ралля,*
*І навучы мяне шаленству*
*Усё любіць,*
*І дай мне жэст і густ*
*Гароха-караля,*
*Каб мог я стаць рабом*
*Валошак і рабін.*
*Па свеце доўга я*
*Сярод чужых, чужых*
*Шчасця шукаў,*
*Але толькі сябе згубіў.*
*І ўрэшце ўсё знайшоў*
*На палявой мяжы,*
*А можа толькі сон*
*Я радасны сасніў?*

СЁМАЕ

*Як слуп высакавольтны,*
*Я над светам,*
*Магу даць сілу*
*Або смерць прынесці.*
*Змясцілася у сэрцы*
*Ўся планета,*
*І засталося месца*
*Шчэ для песні.*
*Адкуль такі я*
*І чаму так вырас,*
*З чым звязана*
*Магутнасць парыванняў?*
*У сэрцы пасяліўся*
*Вечны вырай,*
*Імя якога простае —*
*К А Х А Н Н Е!*
*Як колас я*
*Самотны пры дарозе,*
*І мяне зломіць*
*Найслабейшы вецер,*
*І першы сівер*
*Нашчэнт замарозіць,*
*І не пакіну следу*
*Я на свеце.*
*Чаму такая слабасць*
*Агарнула*
*Маю істоту*
*І маё прызванне?*
*Ды проста я*
*І песня патанулі*
*У вір бяздонны —*
*У К А Х А Н Н Е!*

**Алесь Барскі**

* ✲ *

Заслухаліс дзеці
на бабчыну казку
а бабка іх сыпле
як з рукава
хто ж навучыў яе
казаць
так прыгожа
і так цікава
а якая памяць
у нашай бабулі
дык чаму
яна не ўмее
пісаць і чытаць...

**Агнія**

*„И паки то же рче Давидъ — мужъ въ крови лъстивъ не приполовитъ дънии своихъ. — Се есть светъ золъ иже свещеваютъ на кровопролитъе то сутъ неистовии".*

„І яшчэ сказаў той жа Давід: *„Чалавек кроважадный не дажыве і да палавіны дзён сваіх". „Шкодная рада тых, хто схіляе на кровапраліццё".*

[*„Повестъ временных лет", запіс пад 980 годам*].

Пругкі і халодны вецер налятае напорыстымі хвалямі. Унізе рабаціць гладзь возера. Там шуміць чарот, і адтуль цягне сырым цяжкім зудам. Лістота на дубе шалясціць ўсцяжна і звонка. Час ад часу зрываюцца жалуды. Яны глуха стукаюць аб цвёрдую зямлю, падскокваюць і адбіваюць цьмяныя промні ўзыходзячай поўні месяца.

— Гэта ж мы ўжо другую поўню сустракаем тут, у Яцвягіі, — азваўся кіеўскі ваявода Блуд да драгічынскага купца Гасціслава.

Яны стаялі на стромкім беразе невядомага ім па назве, чужога возера і прыглядаліся, як побач громада палонных яцвягаў пад наглядам рускіх вояў выканчвала засек на начны стан для рускіх дружыннікаў. Вакол стану бадзёра шугала полымя старажавых кастроў. Ад іх нёсся пах смажанага на рожнах мяса.

Гасціслаў маўчаў. Глядзеў на працуючых яцвягаў і намагаўся пазбыцца невясёлых думак. Пасля таго, як на атрады русаў, калі тыя станавіліся на начлег у пакінутых яцвягамі селішчах і цвердзях, ноччу сталі нападаць збройныя атрады, Уладзіміравы воі пачалі ўзводзіць на гладкіх і прасторных месцах засекі. Засекшыся, ноч можна было скаратаць, хоць і не надта выгодна, затое бяспечна і спакойна.




— Як гадаеш, ваявода, ці доўга яшчэ нам тут гуляць давядзецца з мячом ды арканам? — запытаў Гасціслаў Блуда.

— Пакуль усёй зямлі яцвяжскай не скорым.

— До-о-оўга яшчэ, значыць!

— Доўга... Напэўна! Скарылі ледзь восем валасцей, па-іхняму — пулек, а ўсяго ў Яцвягіі трынаццаць пулек. У тых васьмі, бач, і большасць князькоў — кунігасаў пералапалі ды пад залог узялі, таксама і дань князь назначыў. А вось гэтыя пяць аніяк не паддаюцца. Найгорш то вось з гэтым пулькам. Здаецца ж і адным з першых мы яго ўзялі, і з іхніх вояў колькі загінула, а шмат параненых мы паланілі. Нават тутэйшы кунігас пад цвердзю голаў сваю паклаў, а яны, бач, аніяк не сунімаюцца.

— Кажуць, недзе на непрыступным востраве гэтага возера ўсе яны сядзяць.

— Цяжка нам будзе іх тут адолець...

Размова не клеілася. Ад засеку ішоў соцкі, відаць, клікаць на вячэру. Суцішыўся вецер. Месяц выплыў з-за хмараў. На мільгатлівай паверхні возера, аж да таго, цёмнага, берага лёг пераліўчаты шлях.

Усю ноч шалясцела на дубах лістота ды зрэдку цокалі аб цвёрдую зямлю спелыя жалуды. Яцвягі не атакавалі.

Як толькі стала балавець, пачаў ліць халодны дождж. Па счарнелых камлях вольхаў струменьчыкі вады збягалі хутка і бясследна знікалі ў шчылінах, што ўслалі ўсю парэпаную кару дрэў. Заблудзіўшая мурашка круцілася на апаўшым лазовым лістку, што вецер таняў па цёмнай лужыне. Мурашка падбягала на край лістка, абмочвала пярэднія ножкі ў ваду, затрымоўвалася, уздымалася на заднія ножкі, як быццам выглядала далёкага і жаданага берагу, апускалася знеахвочаная, паварочвала назад і подбегам імчалася да супрацьлеглага

**(Працяг на стар. 4)**




## Варвара Л. Квапіш



Нарадзілася я ў 1949 г. у Лодзі. Тут жыла 7 гадоў, потым выехала з бацькамі ў Арнэту, што каля Альштына. У Альштыне скончыла Настаўніцкі інстытут, потым пачала працаваць настаўніцай у адной з навакольных вёсак. У гэтым годзе пераехала ў Белавежу, дзе таксама працую настаўніцай.

Вершы пачала пісаць у мінулым годзе і пераважна на польскай мове. Беларускую, на жаль, ведаю яшчэ слаба, але мяне захапляе яе прыгажосць. Паказваецца яна мне звонкай, сочнай. Чутна ў ёй душа народу. Мне хочацца дакладна пазнаць спосаб мышлення і спецыфіку жыцця тутэйшых жыхароў, таму безупынна буду пазнаваць беларускую мову і буду штораз адважней пісаць на ёй вершы.

Варвара Л. Квапіш

* ✲ *

*Нічога я сёння не напісала —*
*ні ў блакітнай цішыні раніцы,*
*ні ў душны сонцам поўдзень,*
*ні ў змярканні, туманам скупаным.*

*Сёння муза паэзіі вытанчаным сваім светам*
*Улавіць мяне не хацела*
*І толькі здалёк, лёгкая, стаяла.*

*Бо ў цішыні раніцы, у душны поўдзень,*
*І ў змярканні, знікаючым у ночы акіянах,*
*У кожнай маёй мыслі, пачуцці і празе,*
*У боязі няпэўнасці, прыплыве надзеі*
*— цябе прыкмячала.*

* ✲ *

*Ёсць бераг*
*Да якога ніколі не дойдзеш*
*Ёсць праўда*
*Якой ніколі не знойдзеш*
*Ёсць слова*
*Якога ніколі не ўчуеш...*
*Сабраў ты ўсё*
*І позірк людзей*
*Нібы шчаслівых*
*І стыд сяброў*
*Нібы шчыры.*
*У кішэні тваёй*
*Многа дробязі*
*На якую размяняў ты*
*Сваё жыццё.*
*Дзе гэта дарога*
*Якая была тваім сном*
*Дзе расплыліся*
*Дзе патанулі*
*Твае мары і думы?..*
*Перад табой папялішча...*

**Надзея Артымовіч**

* ✲ *

стогне конь
і я напружваю сілы
пот на мордзе
і на твары
брудныя капыты
і ногі ў балоце
ён плуг цягне
я за плугам іду
і ён арэ
і я ару
скіба па скібе
усё шырэй
іржышча перад намі
за намі чарната
да ночы
супольным цярпеннем
перакінем усё

**Ваву**

### ЗВОНКЕ ЭХО

* ✲ *

Розсыпаліс мойі вспомыны
звонкім эхом
мінулых літ.
Помню,
як пахнэ з пэчы хліб,
Помню...
вуоз жэлезняк
повны свіжого сіена.

* ✲ *

Нэублаганно
і нэповстрыманно
мынае усё у далі часу.
Пэрэквітают очы,
Стыгнэ сэрце...
замыкаеціа,
як кропля по кроплі,
нашэ
жыце.

**Іван Кірызюк**

* ✲ *

вяртаешся
і ўсё не так
усё інакш
усё так блізкае
і так чужое
здаецца нейкі дзіўны снегапад
прайшоў тудыма
дзе толькі што жыло былое
і колькі ж тут таго расстання
як у вакне
што запыніў тваю увагу
час
даны кроплі да спадання
як між лістом асеннім
і зямлёю
між смерцю ночы
і світаннем
вось толькі-толькі
а так многа
ох як шкада жыццё
што ты пазбаўлена вяртанняў

**Міхась Шаховіч**

* ✲ *

*Грыміць аркестр*
*І людзі круцяцца ў рытмічным віры*
*Рукі і ногі вочы валасы трасуцца*
*Ад дзікіх продкаў асталася нам навука*
*Жыццё ёсць танцам*
*Давай колькі духу*
*Туды й назад*
*Упоперак уздоўж*
*І рытмы выбівай нагамі*
*Няхай пацее цела пад кашуляй*
*Грыміць аркестр*
*Ўсе ходзяць шчупакамі*
*Шалёны танец*
*Як нашага жыцця працяг*
*Расчараванні і змаганні*
*Чаму ж не танцаваць*

**Ул. Гайдук**

Пачатак на стар. 1



# У ДОМЕ САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ

Самыя разнастайныя. Значнае месца ў іх займаюць даклады і лекцыі на розныя тэмы па народнай гаспадарцы і навуцы СССР, з якімі прыязджаюць да нас лектары з Масквы і іншых гарадоў нашай краіны. Вельмі прыемна праходзяць у нас і сустрэчы з цыкла „На стражы міру і сацыялізму“, у якіх удзельнічаюць воіны Войска Польскага і Савецкай Арміі. Важнай галіной нашай працы з'яўляецца дапамога ўсім, хто вывучае рускую мову. Ад сакавіка месяца бягучага года пры Доме савецкай культуры, у асобным будынку на вуліцы Сенаторскай 38 працуе філіял Інстытута рускай мовы імя А. С. Пушкіна. Яго заданнем з'яўляецца метадычная дапамога настаўнікам рускай мовы ўсіх тыпаў школ у Польшчы.

**— А што па-за Варшавай?**

— Вось іменна амаль усе гэтыя мерапрыемствы выходзяць шырока на ўсю Польшчу. Там і праходзіць большая частка нашай дзейнасці. Перш за ўсё мы прыходзім з дапамогай польскім таварышам і самі прымаем удзел у правядзенні дзён польска-савецкай дружбы ў ваяводствах і гмінах. Гэта вялікія комплексныя мерапрыемствы. У часе іх адбываюцца сустрэчы з савецкімі людзьмі, іх выступленні. Прымаюць у гэтым удзел работнікі нашага Дома, Пасольства СССР, Гандлёвага прадстаўніцтва СССР, акрэдытаваныя ў Польшчы савецкія журналісты. Тады дэманструюцца таксама нашыя фільмы і выстаўкі, абавязкова выступае запрошаны з СССР ансамбль. Такіх мерапрыемстваў штогод бывае дзесяткі. У Доме савецкай культуры ўжо чацвёрты год працуе аддзел навукі і тэхнікі. Ён папулярызуе дасягненні СССР у гэтай дзялянцы. За нашым пасрэдніцтвам у Польшчу прыязджаюць савецкія вучоныя, інжынеры, спецыялісты з розных галін навукі і тэхнікі, выступаюць перад сваімі польскімі калегамі і польскім грамадствам з дакладамі на навуковыя і тэхнічныя тэмы.

З усіх канцоў Польшчы да нас прыходзіць мноства лістоў з просьбамі прыслаць фільмы, выстаўкі, пласцінкі, кнігі, запрашаюць нас у госці з нагоды самых разнастайных урачыстасцей на прадпрыемствах, у арганізацыях. Па меры нашых сіл і магчымасцей імкнемся задаволіць гэтыя просьбы.

**— А што ў бліжэйшай будучыні?**

— Перш за ўсё ўсебаковая падрыхтоўка да дастойнай сустрэчы 60-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, затым да агульнапольскіх дзён савецкай навукі і тэхнікі і да мноства іншых мерапрыемстваў, якія наблізяць нашу краіну да польскага грамадзяніна.

**— Сардэчна дзякую за размову.**

Гутарыў **Мікалай Гайдук**

**АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XIX**





# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**Камізм нацыянальнага характару.** У паэтычнай спадчыне Паўловіча знаходзім два вершы „Поп і цыган“ і „Хітры цыган“, у якіх камізм абапіраецца на рысах нацыянальнага характару.

Няма сумненняў, што ў інтэрпрэтацыі рыс цыганскага характару Паўловіч выразна ідзе за народнай традыцыяй. У многіх беларускіх казках цыган прадстаўлены як чалавек, які патрапіць ашукаць і беларускага селяніна, і пана, і чорта, і змяя. Наогул характарыстыка цыганскіх паводзін і цыганскіх учынкаў утрымана ў народных тэкстах у гумарыстычным тоне. Зрэшты, сказанае адносіцца не толькі да цыганоў, але і да многіх іншых нацыянальнасцей або этнічных груп. Напрыклад, у казках, сабраных Федароўскім, высмейваюцца розныя рысы характару немцаў, яўрэяў, мазураў. Характэрна, што ў гэтых жа казках вельмі часта выстаўляюцца на смех розныя схільнасці і паводзіны палешукоў. У апошнім выпадку, значыць, кпілі беларусы з беларусоў. Нельга не адзначыць, што падсмейванне з іншых нацыянальнасцей у беларускім фальклоры ніколі не выступае ў форме племяннoй нянавісці, пагарды, шавінізму. Праяўляецца яно ў лёгкай іроніі, кпіне, гумары. Несумненна, такі стыль ілюстрацыі цыганскіх постацей выбраў таксама Паўловіч. У вершы „Хітры цыган“ паказаў паэт цыгана, які абакраў селяніна. Калі аднак той злез з гарышча хаты з кублам саланіны, то селянін, занепакоены падазронымі гукамі, выйшаў з хаты і наткнуўся на цыгана, трымаючага ў руках украдзены кубал. Цыган не разгубіўся і знайшоў выйсце з сітуацыі.

*Не спужайся, кубал той з рук не выпускае,*
*Але з месца мужыка сам барджэй пытае:*
*— Добры вечар, гаспадар! Можа сала трэба?*
*А ўжо кубла не пазнаць, бо сцямнела неба.*
*— У мяне свайго ёсць шмат, на ўсё лета хваце! —*
*Сказаў гэтак цыгану, дзвярмі шургнуў ў хаце,*
*Зачыніўся ды лёг спаць. Цыган з кублам вале,*
*А назаўтра — ох і ах! Памінай як звалі!..*

Досыць цяжка сказаць, каго тут больш высмейвае аўтар — хітрага цыгана, ці наіўнага беларуса.

У другім творы „Поп і цыган“ зноў маем дачыненне з тым жа, што і ў першым творы, тыпам інтрыгі, тыпам канфлікту. Тут зноў выступае сутыкненне, канфлікт паміж хітрасцю і наіўнасцю. Хітрасць увасоблена ў постаці цыгана, наіўнасць — у постаці папа. Цыган абавязаўся скасіць папу луг, але не скасіў яго. Грошы аднак не толькі атрымаў, але запатрабаваў дадатковай сумы. Не атрымаўшы дадатковых грошай, пажадаў папу, каб яго трава ўстала. Занепакоены поп едзе на луг і бачыць, што сапраўды трава стаіць. Духоўны перакананы, што трава „ўстала“ і што ў гэтым праявілася божае пакаранне за яго скупасць.

Зразумела, што маем тут дачыненне з сітуацыяй няпраўдападобнай, фікцыйнай. Цяжка сабе ўявіць, што духоўны паверыў у тое, што трава ўстала. Мабыць, гэты верш быў апрацоўкай анекдота.

Мы ўжо сказалі, што і ў адным і ў другім творы маем дачыненне з канфліктам паміж хітрасцю і наіўнасцю. Варта дадаць, што ў адным і ў другім выпадку хітрасць перамагла наіўнасць. Такі вынік канфлікту, несумненна, згодны з жыццёвай праўдай.

*У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ*





*На выстаўцы саламяных вырабаў народных умельцаў з Бельшчыны.*
*Фота Я. Цялушэцкага*

**ЧЫЖОЎСКІЯ ТРАКТАРЫСТЫ**

Чыжоўская спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў мае добрых трактарыстаў. Найбольшы працоўны экзамен праходзяць яны падчас жніўной кампаніі. Тады перасядаюць яны на камбайны. У гэтым годзе Васіль Кіндзюк на камбайне „Бізон“ выпрацаваў 260 гадзін, а Андрэй Васілюк 206 гадзін. Добрых вынікаў працы на камбайнах дабіліся таксама трактарысты Кастусь Філімонюк і Віктар Грыгарук.

Чыжоўскія трактарысты падчас жніўнай кампаніі па выкарыстанню камбайнаў занялі другое месца ў Беластоцкім ваяводстве. **М. Х.**

# Ці вы ўжо выпісалі „Ніву” на 1977 год?

Дарагія чытачы, калі Вы яшчэ не выпісалі свой часопіс на 1977 год, зрабіце гэта неадкладна. Прыпамінаем, „Ніву“ можна выпісаць у пісьманосца, на пошце і ў „Руху“. Калі маеце нейкія цяжкасці з выпіскай на месцы (здараюцца такія выпадкі па-за Беласточчынай), дасылайце грошы чэкам на рахунак RSW „Prasa—Książka—Ruch” I Oddział Rejonowy w Białymstoku, ul. Kopernika 93, nr konta 5018—1094 NBP I Oddział Białystok.

Цана падпіскі: на квартал 7,20 зл; на паўгода — 14,40 зл; на год — 28,80 зл.

Можна таксама „Ніву“ выпісаць знаёмым за мяжу. Такую падпіску прымае RSW „Prasa—Książka—Ruch” Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00—958 Warszawa, konto PKO nr 1531—71.

Цана падпіскі за граніцу вышэйшая за краёвую на 50%.

Дзякуем!

(Працяг са стар. 3)





берагу. Лісток круціцца па вадзе ў подыхах ветру, але аніяк не можа даплысці да мохавай купіны. Купіна ў пядзю даўжынёй і шырынёй для мурашкі з'яўляецца вялікай зямлёй, а мо нават хатай на ўсю гэтую сцюдзёную непагадзь. Мурашка нястомна бегае ад краю лістка і да яго краю, не траціць надзеі на ратунак.

Сам князь кіеўскі Уладзімір Святаслававіч загадаў Блуду самому ўзначаліць некалькі соцень вояў і падручных ды прыступам узяць Гнілы востраў на Белым возеры. Узяць з дрыгвястага пераходу, што злучае яго з берагам. А гэта таму, што ўчора спрабавалі было русы падплысці да вострава вадою на плытах. Аднак бліжэй, як на адзін стрэл, яцвягі іх да сябе не падпусцілі. Стрэлы, выпушчаныя з тугіх лукаў, упіваліся ў шчыты, прабівалі шлемы і кальчугі. Яны былі затручаны змяіным ядам: з ранаў разам з крывёю, выплывалі смертаносныя зялёныя крупінкі. І хоць параненыя воі амаль уголас паўтаралі замовы ад змяінага ўкусу, раны на іх целе пухлі ўваччу, пухліна шпарка разлівалася па ўсяму целу. І воі адмовіліся браць востраў з боку возера.

Уладзімір Святаслававіч вечарам уважліва прыглядаўся да залітых сінюю пухлінай ранаў на целах стогнучых у смяротнай гарачцы параненых і больш з плытамі па вадзе падыходзіць не загадваў. Да світання дзесяткі тры вояў сканала ў страшэнных мучэннях.

Па пераходу без перашкод дайшлі толькі да дрыгвястай завузіны, на якой не расло ніводнае дрэўца. За ёю пачынаўся ўжо востраў і там выразна відаць высокі і густы яцвяжскі засек. Чало атраду русаў сунулася было туды, але стрэлы ды каменне паляцелі густою хмарай. А тут яшчэ топель-дрыгва некаторых ледзь не засмактала з галавой. Дрэнна. Зусім дрэнна.

Ваявода Блуд прыкарнуў ля камля старой алешыны. Глядзеў на мурашку, што ўсё яшчэ кідалася на плаваючым лістку. Раптам з алешыны пад цяжарам дажджавых кропель і націскам ветру адарвалася сухая голька і, падаючы, трапіла якраз у лісток-карабель. У лужыне толькі баўтанула — па лістку і мурашцы і след прастыў.

„Каб пагода ды спрыяльны вецер, — білася ў думках Блуда. — Каб хоць спрыяльны моцны вецер з возера на востраў...“

І спаўдня, бы па загаду, падзьмуў прыхільны вецер.

Тады да працы пагналі палонных яцвягаў і самі працавалі таксама, да знямогі. На плыты ўскладвалі стажкі сена, змешанага з альховым сырым лісцем і зялёнаю травою. Сена з лугоў палонныя яцвягі цягалі пастромкамі саматуж, а русы — коньмі. Да канца дня і за ўсю ноч плытоў з сотню намасцілі. І Даждждбог не абышоў іх сваёю ласкаю: раніца ўстала пагодная і ветраная. Вецер надалей дзьмуў з возера на Гнілы востраў. Укрыўшыся за плытамі, вымашчанымі сенам, падплылі пад самы востраў, амаль увесь абставілі яго гэтымі плывучымі стагамі. Яцвягі па-ранейшаму сыпалі стрэламі і каменнем, але без выніку — усё страгла ў сене. Праз некалькі хвілін усе стагі задыміліся. Клубы едкага жоўтага дыму ахуталі ўвесь востраў. Чакалі, пакуль згарыць сена.

Блуд саскочыў з плыта на бераг вострава. Ногі страглі ў коўзкай трасіне. Вецер прыціскаў клубы дыму да самай зямлі. Штахалі цяцівы лукаў. Каменне з пращчаў ляцела доўгім паўкругам і знікала за накастрожаным засекам. Да засеку недалёка: усяго некалькі дзесяткаў крокаў. Але ногі на месцы месяць балоцістую жыжу і правальваюцца па самыя пахі. Дым уядаецца ў вочы, грызе ў горле. Вось і пачатак сухога груда. Воі ўзбіраюцца на засек. Ён так хітра навалены, што ні ўзлезці наверх, ні прасячыся нізам цераз яго. Вострае галлё ўтыркаецца ў вочы, абдзірае твар і рукі, рве вопратку. Абедзве рукі ўжо анямелі ад рубання галля. Кашаль душыць, слёзы цякуць па шчоках гарачымі ручайкамі, трапляюць у вусны, на язык. Горка-салёныя, бы тая вада ў Варажскім моры, як баяў некалі вечарам Гасціслаў, пра свае далёкія купцовыя падарожжы ўспамінаючы. Але вось нейкая шчыліна ў засеку. Узмах мячом, яшчэ раз і яшчэ...

З клубаў дыму раз-пораз выхіляліся стусы кросен, жорнаў, вузлоў, відаць, з адзежай ды іншым хатнім скарбам. На адным з іх нешта заварушылася. Ваявода скочыў туды; уз-

## Авечкагадоўля



Заслужана хваляць сяляне, і не толькі сяляне, рукавіцы, шкарпэткі з воўны, світары. А кажух на зіму, каб і лёгка і цёпла было, цяпер стаў нават модным. І шарсцяныя сукенкі таксама дасканалыя. Дзе гэта ўсё ўзяць? У авечкі. І капуста на авечым мясе вельмі смачная.

Больш авечак — больш воўны. Тэкстыльнай прамысловасці не хапае яе. Воўны не заменіш поўнасцю хіміяй.

Наша дзяржава стварыла добрыя ўмовы для развіцця авечкагадоўлі. Паявілася шмат гаспадароў, якія пачалі спецыялізавацца ў гэтай галіне. Некаторыя ўжо маюць авечыя фермы. Напрыклад, Мікалай Пучынскі з Новага Ляўкова (гміна Нараўка), Мікалай Лазовік з Сакоў (гміна Бельск), Пётр Фірсюк з Кленік (гміна Чыжы) і шмат іншых гаспадароў, авечы статак у якіх разросся да 200 штук (а ў некаторых больш як 200 штук).

Але, як кажуць, нешматлікія дубы не ствараюць лесу. Вельмі важным з'яўляецца тое, каб як найбольш гаспадароў разам з іншай традыцыйнай сялянскай гадоўляй трымала прынамсі па 5-10 штук авечак, каб прадавалі дзяржаве воўну, мяса і скуры. Масавасць авечкагадоўлі можа прынесці і гадоўцам і дзяржаве шмат карысці.

Іван Андрэюк з Цялушак (гміна Бельск) таксама (глядзі фота) ўжо некалькі год трымае авечак. Завёў парадзісты гатунак — мерынасаў. Яны даюць шмат воўны і шмат мяса.

— Гадаваць авечак, — гаворыць ён, — нескладаная справа. З вясны да асенніх халадоў яны ўвязаны на пашы. Зімою ім варыць не трэба. Кормячы кароў, падкіну ім гэтай жа самай ежы і ім зусім хапае.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

## Найлепш у Арэшкаве

Ужо шосты год ад пачатку кастрычніка і да канца красавіка вучні пачатковай школы ў Арэшкаве Гайнаўскай гміны штодзень п'юць у школе шклянку гарачага малака. Справа другога снедання надзвычай важная, паколькі ў арэшкаўскую школу даязджае шмат дзяцей з іншых вёсак. Атрымліваюць яны таксама па свежай булачцы і смакавітыя сыркі.

У мінулым навучальным годзе да такой ступені было разгорнута дакармліванне дзяцей, што школа ў Арэшкаве ўжо другі раз падрад заняла першае месца ў Беластоцкім ваяводстве ў акцыі „Шклянка малака для кожнага вучня“. У Арэшкаве малако п'е кожны вучань. Дастаўляюць яго ў школу з мясцовага пункта скупкі малака. Свежае і высакаякаснае, ад кароў аднаго гаспадара.

У акцыі ўдзельнічала 215 пачатковых школ (на 51 больш, чым у папярэднім годзе). Вучні выпілі больш 611 тысяч літраў малака. Тым большая радасць для арэшкаўскіх школьнікаў. За імі была школа ў Ксенжыне пад Беластокам, а трэцяе месца заняла школа ў гміннай вёсцы Дзядковіцы, што ля шашы Боцькі-Сямяцічы.

Школам-пераможцам былі прызнаны грашовыя ўзнагароды. Узнагароды атрымалі таксама настаўнікі, якія дабіліся найлепшых поспехаў у гэтай карыснай акцыі. (ця)




Вітальд Вяжбіцкі з Плянты завёў ферму сабак, і кудлатыя сябры чалавека навялі жах на суседзяў. Справа ў тым, што бобікі Вяжбіцкага бегаюць, дзе хочуць, і атакуюць кожнага пешахода. Суседзі прапануюць уласніку сабачай фермы, замест сабак, гадаваць свіней. Талковая прапанова загінула аднак у тупым скавытанні чацвераногай зграі.







*Там у лесі кала млына*
*вырасла каліна.*
*Задумала ў сад гуляці*
*малада дзяўчына.*
*Задумала ў сад гуляці*
*малада дзяўчына.*
*Задумала ў сад гуляці*
*межы яблынькамі,*
*каб пачуці перамовы*
*межы дзецюкамі.*
*Каб пачуці перамовы*
*межы дзецюкамі.*
*Бацько добры, бацько добры,*
*а маці ліхая —*
*ні пускае ў сад гуляці*
*кажа: „Маладая“.*
*Ні пускае ў сад гуляці*
*кажа: „Маладая“.*
*— Пусці, маці, у сад гуляці —*
*я й ні забаўлюсе,*
*як запеюць першы пеўні —*

*Клічэ маці вечэраці,*
*а дочка ні хочэ.*
*— Вэчэрай жэ, моя маці,*
*калі наварыла,*
*бо для мэне, маладое,*
*вэчэра німіла.*
*Бо для мэне, маладое,*
*вэчэра німіла.*
*Ішлі хлопцы кала саду —*
*зачалі співаці,*
*а дзяўчыні горка стала —*
*зачала плакаці.*
*А дзяўчыні горка стала —*
*зачала плакаці.*

Ад Зоф'і Скепка, 1943 года нараджэння, вёска Баб'я Гара гм. Нараўка, запісаў у ліпені 1976 г. М. Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі — Людмілы Панько.




### ЖЫЦЦЁ АД ПРЫЛАЎКА

Нядаўна давялося мне крыху пахадзіць па Гайнаўцы. Уражанне асталося прыемнае. Горад з кожным годам разрастаецца, аднаўляецца, заўжды сустракаеш тут штосьці новае.

Найперш наведаў я прасторную краму з таварамі хатняга прызначэння. Прывітала мяне добразычлівай усмешкай прадаўшчыца Тамара Сарачынская. Яна радавітая гайнавянка. У 1973 годзе закончыла Бельскі эканамічны тэхнікум.

У краму зайшлі двое сялян. Спыніліся ля парога і нерашуча азіраюцца вакол сябе.

— У чым магу вам памагчы? — звярнулася да іх пані Тамара.

— Нам патрэбны прыгожы абажур, — сказала жанчына.

— Бо бачыце, — адгукнуўся яе муж, — мы пабудавалі сабе новы дом і трэба яго прыгожа і модна прыбраць.

Высока пад столлю віселі самыя розныя абажуры.

— У якой цане абажур вас цікавіць? — запытала прадаўшчыца.

— Цана не мае значэння, — горда заявіў селянін.

— Дык можа гэты хрустальны? — запрапанавала прадаўшчыца.

Пакуль яна была занята падборкай гэтага абажура, я болей уважна прыглядзеўся да тавараў, якія ў гэтай краме прапанавалі пакупнікам. Сапраўды, можна было знайсці тут амаль усё, што неабходнае для сучаснага абсталявання хатняй гаспадаркі, што аблягчае нам штодзённае жыццё. Найбольш месца ў краме займаюць халадзільнікі, сярод іх — халадзільнікі „Мінск-6“ і „Мінск-10“. Эстэтычныя, кампактныя і адносна недарагія: „Мінск-10“ — 7.800, а „Мінск-6“ — 8500 зл.

— Летам здаралася, што прадавалі мы ў дзень аж дзесяць такіх халадзільнікаў, — інфармуе пані Тамара. — Найбольш купляюць іх на вёскі. Працуюць яны выдатна, дагэтуль не было скаргаў і рэкламацый.

Побач з халадзільнікамі стаяць аўтаматычныя сціральныя машыны італьянскай прадукцыі „Сан-Джорджыё“.

— Яны даволі дарагія, — кажа прадаўшчыца. — Аднак і на іх знаходзяцца ў нас аматары. Нядаўна прадалі мы на працягу месяца часу дзесяць гэтых сціральных машын.

Гэта адмысловая машынка, бо сапраўды яна сама мые і адразу сушыць. Толькі для яе працы неабходны водаправод і цякучая вада. Значыць, у нашых вёсках пакуль што рэдка-дзе можна яе прымяняць.

Дарэчы, ёсць ужо ў продажы польскія сціральныя машыны падобнага тыпу. Яны шмат таннейшыя ад гэтых італьянскіх, а працуюць не горш ад іх. Толькі адна бяда, што труднавата іх купіць, бо трэба запісвацца ў чаргу.

— Што ў вас цяпер карыстаецца самым вялікім попытам? — запытаў я прадаўшчыцу, калі яна ўжо прадала сялянам самы дарагі абажур, які знаходзіўся ў краме.

— Польскія сокавыжымалкі „Эда“ за 750 зл. Іх бяруць, толькі давай.

І гэта зразумела, бо дзякуючы такой машынцы вельмі лёгка падрыхтаваць дома свежы сок, і дамашняе віно, і ўсялякія іншыя настойкі, якія ў зімовы час як жа нас парадуюць сваім незабыўным смакам.

Зноў паявіліся пакупнікі, да якіх падбегла пані Тамара. Дык болей не перашкаджаю ёй у працы. Наведваю яшчэ іншую гайнаўскую краму — спулдзельчы дом гандлёвы „Сполэм“. Кіраўнік гэтай новай у гайнаўскім пейзажы гандлёвай пляцоўкі Ніна Вяжбовіч інфармуе, што гэта самая вялікая крама ў Гайнаўцы: 440 квадратных метраў гандлёвай паверхні, 23 прадаўцы, два паверхі. На ніжнім паверсе — перфумерыя, касметыка і ўсялякія цуды сучаснай хіміі. Вышэй — шкло і пасуда, тавары для дома і штодзённага быту. Тавар поўнасцю даступны для пакупнікоў, якія самі падбіраюць, што ім трэба.

— Тут так людна і прасторна, — звяртаюся да кіраўнічкі гэтага універмага, — ці не здараецца так, што некаторыя з вашых кліентаў прабуюць прыдбаць тавары без грошай?

— Працую тут ад 1 ліпеня гэтага года, значыць, ад пачатку, і штосьці падобнае не здарылася. Аднойчы толькі прыкмецілі мы аднаго хлапчука, які хацеў схаваць у кішэню нейкую дробязь. Нашы суадносіны з пакупнікамі абаснаваны на ўзаемным даверы. І пакуль што ўсё паказвае на тое, што гэта самыя правідловыя суадносіны.

Пані Ніна мае за сабою багаты прафесіянальны вопыт. У сполэмоўскай спулдзельчасці працуе яна ўжо 26 гадоў. Немалой трэба энергіі, каб спраўна кіраваць такой вялікай гандлёвай пляцоўкай. Людзі ў іх купляюць вельмі многа. За месяц часу астаўляюць у касах спулдзельчага гандлёвага дома каля 1 мільёна злотых.

**В. Рудчык**
Фота аўтара




*Вялікі спулдзельчы гандлёвы дом „Сполэм“.*

няў цяжкі меч — двое дзяцей-малалеткаў скручвалася ва ўдушлівым кашлі, у іх на месцы вачэй слязіліся крывавыя шчыліны. З шырока раскрытых вуснаў разам са слінай выплывала ружовая пена. Яны душыліся ў дыме. Ваявода сунуў меч у ножны. Схапіў аберуч дзяцей і, сігаючы цераз клункі і стусы, паімчаў да засеку. Ногі дрыжэлі ад натугі, але ён усё ж узабраўся на самы верх засеку. Выпрастаўся ва ўвесь свой магутны рост і ўзняў над галавою шчупленькія дрыжачыя дзіцячыя цельцы. „Паветра ім, — гаварыў сам да сябе, — свежага паветра!“. Сам таксама стаў тварам да ветру і прагна глытаў яго кожнае халаднаватае чыстае тхненне. І дзеці, мабыць, таксама глынулі ўжо свежага, без дыму паветра: целы іх паспакайнелі, не карэжыліся ў надрывістым кашлі.

Ваявода бачыў: унізе, на вадзе, тухлі плыты са стагамі і дым ужо ледзь слаўся тонкай коўдрай па наваколлю. Цераз пералётныя хмары прабівалася асенняе сонца. На возеры трымцела дробная хваля. І чуваць было, як на востраве сіпеў удушлівы кашаль, бразгатанне зброі і перадсмяротныя стогны соцень людзей.

**Мікалай Гайдук**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Дзеі чыгуначнай Чаромхі

У кожнай гміне, у кожным асяроддзі дзеецца нешта цікавае. У хроніку Чаромхаўскай гміны за апошні час трэба запісаць некалькі фактаў.

Адбылася сустрэча грамадска-палітычнага актыву з сакратаром Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку тав. Юзэфам Пяхоўскім.

Мэтай сустрэчы была абмяркоўка выканання грамадска-гаспадарчага плана гміны за першае паўгоддзе, а таксама аналіз перспектыўнага плана разбудовы Чаромхі.

Як відаць з матэрыялаў, прадстаўленых на сустрэчы, у бліжэйшыя гады — 1978-80 пачнецца будаўніцтва прадпрыемства чыгуначных стрэлак (раз'ездаў). Тут знойдзе працу каля 400 чалавек. Апрача таго, ёсць прапанова стварыць пры прадпрыемстве ўдасканальвання рамяства цэнтр для навучання прафесіянальных кадраў чыгуначнікаў.

У дыскусіі прыняло ўдзел 12 асоб. Асаблівая ўвага была звернута на сацыяльна-бытавыя справы, а перш за ўсё на хутчэйшае будаўніцтва сацыяльнага аб'екта ў паравозным дэпо і разбудову прадпрыемства ўдасканальвання рамяства.

Вітальд Артэмюк выступіў з прапановай стварыць чыгуначны спартыўны клуб у Чаромсе.

У час сустрэчы 12 асобам былі ўручаны партбілеты.

*

12 верасня з нагоды Дня чыгуначніка адбыўся ў Чаромсе святочны вечар. З дакладам аб дасягненнях чаромхаўскіх чыгуначнікаў выступіў Мікалай Гарадкевіч, а з святочнымі пажаданнямі I сакратар вузлавога камітэта партыі Лявон Ляскоўскі.

Пяцёра перадавых чыгуначнікаў былі ўзнагароджаны значкамі „Перадавы чыгуначнік“. Залаты значок атрымаў дзяжурны руху Васіль Астапкевіч, а сярэбраныя — Янка Саўчук, Мікалай Вілюк, Сяргей Рэпка і Пятро Маркевіч. Начальнік станцыі Ежы Напуркоўскі быў узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі. У мастацкай частцы з багатай праграмай выступілі варшаўскія артысты.

*

19 верасня ў Вульцы Тэрахоўскай адбыліся гмінныя дажынкі. З дакладам выступіў начальнік гміны мгр інж. Мікалай Тэленцеюк. Дажынкавы вянок і традыцыйны бохан хлеба ўручылі гаспадару дажынак I сакратару ГК ПАРП тав. Казіміру Краўчыку Яўгенія Астапковіч і Янка Зінчук.

Вулька Тэрахоўская аказалася пераможцам, як самая гаспадарная вёска гміны. На рукі яе солтыса Мікалая Рашчэнкі была ўручана ганаровая грамата і грашовая ўзнагарода — 30 тысяч злотых. Тут была таксама арганізавана выстаўка плёнаў зямлі.

У мастацкай частцы выступілі дубяжынскія хлопцы і плёскаўскія дзяўчаты пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага.

*

7 кастрычніка ў мясцовым рэстаране „Прыгранічны“ з нагоды Дня міліцыянера сустрэліся працаўнікі пастарунка МО з членамі гміннага і вузлавога камітэтаў партыі, з грамадска-палітычным калектывам Чаромхі. Міліцыянеры дзяліліся ўспамінамі з мінулых гадоў, уражаннямі з штодзённай службы.

**Ул. Сідарук**

## І што далей?

Вясною гэтага года згарэла каля 30 га лесу, што паміж Орляй і Крывяцічамі. Лес быў малады — пасадка. Лес згарэў, і на гэтым канец. **Ніхто не старaецца загаспадарыць гэтыя 30 гектараў** поля.

Трэба было б, каб надлясніцтва ў Бельску падумала аб гэтым і, калі ёсць сродкі, пасадзіла новы лес на гэтым месцы.

**Іван Кірызюк**

## Куды прапалі крэмы?

Ад нейкага часу ў нашых кіёсках „Рух“ і крамах ГС-аў цяжка знайсці нейкі крэм для твару ці рук. Кожны раз, як толькі праходжу побач кіёска, пытаюся пра крэм „Нівэа“. Заўсёды атрымліваю вясёлую ўсмешку прадаўшчыцы і той жа адказ „Няма“!

Як паведаміла мне знаёмая, нядаўна крэм трапіў у кіёск „Рух“ на станцыі ў Чаромсе. Аднак 50 каробак, быццам прымаўкавы перац, расплыліся сярод шчаслівуцаў. А мне далей даводзіцца толькі марыць і чакаць сваёй чаргі да шчасця.

Куды яны падзеліся крэмы, ці іх прадукцыю спынілі, ці фабрыка сапсавалася? А мо недзе валяюцца на складзе?

**(ус)**

## Нерэгулярна ходзіць

Ужо і сама не магу разабрацца, як з гэтымі аўтобусамі. Здаецца, у нас іх не так і мала, калі паглядзіш на станцыі ПКС у Беластоку. Так, стаяць, то стаяць, а едуць як папала. Раз паедзеш, а раз не.

Вось 3.X. г.г. не пайшоў увечары аўтобус з Беластока ў Бандары і не пайшоў у многія іншыя мясцовасці. І будзь разумны, вярніся дахаты. А можа пехатою ісці 50 км?

А пасля вольнай суботы ў панядзелак раніцою не было чым заехаць на работу. І што рабіць? Сесці і плакаць? — Не выпадае.

**Кара-кум**

## Мая хата з краю

Пятніца. Будзённы дзень, рабочы дзень. Сонца асенняе прыгравае яшчэ здорава. Людзі капаюць бульбу, якая добра ўрадзіла. У Семяноўцы на вуліцы каля школы многа людзей. Восьмая гадзіна раніцы. Людзі нервуюцца, клянуць, наракаюць. Падыходжу і пытаю, што здарылася, што іх сюды ў такі гарачы час прыцягнула. Справа выяснілася. Згодна з паведамленнем, у гэты дзень павінна быць прасвятленне ў рэнтгенаўскім амбулансе (нумар АМ 4332) жыхароў вёскі Тарнопаль, Стальніца і іншых. Людзі прыехалі, пакінуўшы і бульбу капаць, і жыта сеяць. І тут стаяць. Аказалася, што ў школе, куды пад'ехаў рэнтгенаўскі амбуланс, няма электрычнага току і няма да чаго падключыць апаратуру.

Дырэктар школы ўжо даўно аб гэтым заяўляў энергетычнаму прадпрыемству ў Гайнаўцы. Чакае і дачакацца не можа. Двоіцца і троіцца, робіць усё, каб рушыць „сілу“, прывозіць электрыка з ПКП ў Семяноўцы. Не зусім выходзіць. Тым часам „джэнтэльмены“ з амбуланса сядзяць ціхенька — „мая хата з краю“...

Жыхары Тарнопаля кажуць, што кожны гаспадар у іх вёсцы мае ў сябе „сілу“ і дазволіць падключыцца, ёсць такая патрэбная сіла і ў вёсцы Семяноўка — бяды няма. І пытанне, толькі, ці не лепш было б правесці гэтую работу ў вёсцы Тарнопаль? Без клопатаў і з карысцю для гаспадароў. Ці можна так псаваць нервы людзям, ад якіх чакаем так многа?

**(вб)**

## Добры пачатак

Так можна назваць дарожныя работы на вуліцах Нараўкі. У апошні час тут направілі 52 м вуліцы 22 Ліпеня. Спярша палажылі жужаль. Гэта было вельмі нявыгадна. У час спякоты чорны пыл нёсся ў дамы, крамы і на праходжых.

Вялікі рух аўтамашын моцна хваляваў жыхароў гміннай мясцовасці. Мала было карысці з дапамогі мясцовай стражы пажарнай, якая ліла ваду на жужаль.

І вось раённая ўправа дарог з Бельска коштам 150 тысяч зл. направіла гэты кавалак вуліцы. Работаю кіраваў іх працаўнік Васіль Рубчэўскі. Варта звярнуць увагу і прасіць раён, каб направіў яшчэ раз'езд каля помніка, а таксама каля мясцовага пастарунка МО, дзе надта многа пяску.

**Аляксандр Закройшчык**

**Толькі скнара і лянівы**
**Не выпісвае „Нівы“**






### ЧЫТАНКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

*Пайду шукаць свайго шчасця.*
*Дзе яно схована будзя ад мяне?*
*Чаму для шчасця ёсць перашкода,*
*Чаму само не прыдзя да мяне?*
*Дзе ты, шчасце маё, блукаеш,*
*Можа шукаеш ты мяне?*
*Я аб табе ўсё вельмі мару,*
*Хачу відзяць я цябе хутчэй.*
*Які лёс твой у чужых людзях,*
*Пакуль спаткаемся з табой?*
*Да чужога шчасця не прывыкняш,*
*Трэбо знайсці шчасце сваё.*
*Аднойчы сустрэў я дзеўку маладую —*
*Гэто было шчасце, шукаў даўно.*
*Я не ведаў, як прывітаць яе,*
*Але яна сказала — пайду з табой,*
*Гэто я табе суджана,*
*Будзям разам жыць!*

**Дзядзька Рыбалт з Дубровы**

## Забрукаваць

Ёсць у Крывяцічах скрыжаванне дарог. Адна частка вуліцы — гэта балотнае возера, таму што няма тут бруку. Праўда, невялікі гэта адрэзак дарогі — каля 20 метраў, але ў дажджлівую восень тут не праехаць.

Знаходзіцца гэта насупраць „крыжоў“. Трэба было б забрукаваць гэты адрэзак дарогі. Падумайце, актыў і солтыс, аб гэтым!

**Іван Кірызюк**

## Будзе больш экскурсаводаў

Той, хто хоча ў турысцкім сезоне наняць у Белавежы экскурсавода, не ад сёння ведае, як гэта цяжка. Праўда, белавежскі гурток экскурсаводаў ПТТК налічвае 75 чалавек, ды групы ўмеркавана актыўна водзіць, бадай, палова з іх. Гэта выклікана многімі аб'ектыўнымі прычынамі. Экскурсаводы з'яўляюцца звычайна працаўнікамі розных устаноў. Групы водзяць пасля працы або ў час водпуску, каб крыху падрамантаваць сямейны бюджэт. Увогуле, экскурсаводства ў Белавежы з'яўляецца грамадскай працай. Бюро абслугоўвання турысцкага руху не мае аніводнага штатнага экскурсавода. Таму асабліва разлічвае ў сезоне на пенсіянераў, настаўнікаў і дзве асобы, якія займаюцца толькі экскурсіямі.

Маючы на ўвазе гэтыя цяжкасці, старшыня навучальнай камісіі гуртка др інж. Чэслаў Аколаў узяўся за арганізацыю новага экскурсаводчага курсу. Кандыдатаў сабралася даволі многа, каля 50 чалавек. Зразумела, што перш за ўсё з самой Белавежы, ды ёсць таксама некалькі асоб з Гайнаўкі, Нараўкі, Навасад, Бярнацкага Мосту. Прафесіі іх розныя — працаўнікі навуковых цэнтраў, настаўнікі, служачыя. Многія маюць вышэйшую адукацыю.

Курс распачаўся ў канцы першай дэкады кастрычніка ў холе Прыродазнаўчага музея БНП. Тут і будзе адбывацца большасць заняткаў. Старшыня гуртка мгр Эва Варвара Высмулэк гаварыла аб працы экскурсавода, аб яго абавязках і правах. Потым др інж. Ч. Аколаў выступіў з першым дакладам аб міжнародных арганізацыях аховы прыроды і аховы асяроддзя. Прадбачваецца, што цэлы курс ахопіць 329 гадзін, з чаго на даклады выпадзе 193 гадз., а на практычныя заняткі 136 гадз. Заканчэнне курсу і экзамен адбудуцца ў маі 1977 г. Кандыдаты на экскурсаводаў апрача праблем, якія датычаць самой Белавежскай пушчы, пазнаюць таксама на цыкле лекцый асноўныя грамадска-палітычныя праблемы Польшчы, навейшую яе гісторыю. Пазнаюць гісторыю культуры ў дзяржаве, яе турысцкую геаграфію, гісторыю турыстыкі, краязнаўства і экскурсаводства, формы аховы прыроды і інш. Пазнаёмяцца апрача таго з Беластоцкім ваяводствам. У праграме курсу прадбачаны шматлікія экскурсіі: у Беласток, Тыкацін, Супрасль, Сямяцічы, Цехановец.

Лекцыі будзе чытаць звыш 20 выкладчыкаў-спецыялістаў у розных галінах ведаў. Многа лекцый правядзе др інж. Чэслаў Аколаў, др Ежы Лешэк Альшэўскі, дац. др Януш Багдан Фалінскі, мгр Эва Варвара Высмулэк. Чытаць лекцыі будуць таксама праф. др Здзіслаў Пуцэк, др Кшыштаф Волк, др Малгажата і Збігнеў Красінскія. З-па за белавежскіх выкладчыкаў прадбачыцца ўдзел мгр Варвары Кестэніс-Студзінскай, мгр Дануты Ясканіс, мгр Вальдэмара Манкевіча і інш.

Усё гаворыць за тое, што ў бліжэйшым турысцкім сезоне экскурсаводаў у Белавежы павінна хапіць. Ці так будзе?

Тэкст і фота
**Пятра Байко**



## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „ЦІ БУДЗЕ ПАРАДАК У ЛАСІНЦЫ?“, „Ніва“ № 30 ад 25 ліпеня 76 г.**

**Адказвае:**

**URZĄD GMINY W NARWI.**

W odpowiedzi na zamieszczony artykuł w tygodniku ,,Niwa'' ,,Czy będzie porządek w Łosince'', Urząd Gminy w Narwi uprzejmie komunikuje, że koszty kapitalnego remontu ulicy wsi Łosinka kształtują się w granicach ponad 6 mln zł. W latach 1975 i 1976 w przedmiotowej sprawie tutejszy Urząd zwracał się z prośbą do Wojewódzkiego Zjednoczenia Przedsiębiorstw Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Białymstoku o przydzielenie środków finansowych. Powyższych środków finansowych jednak nie otrzymaliśmy.

Przeprowadzenie kapitalnego remontu z własnych środków finansowych jest niemożliwe.

Nadmieniamy, iż w roku 1976 dokonano częściowego remontu bieżącego poprzez zawiezienia żwirem występujących tam nierówności.

Tutejszy Urząd widzi konieczną potrzebę przeprowadzenia kapitalnego remontu ulicy i będzie w dalszym ciągu czynił starania w tym kierunku.

**Sekretarz Biura**
**Piotr Tichoniuk**

**Да заметкі „І ДЗЕ ТУТ ПРАЎДА?“, „Ніва“, № 34 ад 22 жніўня 76 г.**

**Адказвае:**

**PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ W BIAŁYMSTOKU.**

Udzielając odpowiedzi na felieton zamieszczony na łamach tygodnika ,,Niwa'' w sprawie rozbieżności między książkowym wydaniem rozkładu jazdy, a tabliczkami rozkładów jazdy na trasie Bielsk Podlaski—Narew, Zarząd Przedsiębiorstwa PKS w Białymstoku zawiadamia, że faktycznie na w/w trasie z dniem 30 maja br. zostały wprowadzone zmiany w kursowaniu autobusów, a mianowicie:

z uwagi na brak taboru autobusowego do przewozu osób z biletami miesięcznymi, zlikwidowano dwa kursy na trasie Bielsk Podlaski — Białystok przez Narew o godz. 7.55 i 17.00, obsługiwane w okresie komunikacyjnym 1975/76,

natomiast kursy o godzinie 4.00 i 19.10 na trasie Bielsk Podl. — Narew zostały zawieszone z dniem 30 maja 1976 r. ze względu na małą ilość podróżnych jadących w tych kursach.

Nadmienia się, że występujące niekiedy różnice między tablicowym, a książkowym wydaniem rozkładu jazdy wynikają z uwagi na zwykle wcześniejsze drukowanie książkowych rozkładów jazdy.

Znajdujące się obecnie na tabliczkach rozkładowych godziny kursowania autobusów na wszystkich przystankach od Bielska Podlaskiego do Narwi są aktualne.

Jednocześnie pragniemy poinformować, że książkowy rozkład jazdy autobusów na stronie 3 zawiera informację zastrzegającą prawo wprowadzania zmian.

**I-szy zastępca dyrektora**
**mgr Stanisław Dembowski**

„Niwa“ — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch“. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu“, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# Сустрэліся...

— Прывітанне, Цыбулькін!
— О, здароў, Дзяркач!
Яны доўга трэслі адзін аднаму рукі.
— Колькі зім, колькі лет мы не бачыліся!
— І сапраўды, колькі зім, колькі лет!
— Дык як жывеш, Цыбулькін?
— Ды нічога. А ты?
— Ды таксама нічога. А ў цябе што новенькага?
— Ды ўсё па-ранейшаму.
— На тым жа месцы працуеш?
— На тым жа. А ты?
— На тым жа самым.

Пастаялі, падумалі, што яшчэ спытаць адзін у аднаго. Цыбулькін нетаропка агледзеў блакіт неба, сказаў:
— Надвор'е якое ўсталявалася! Калі сонейка свеціць, дык і весялей.
— А калі дождж, дык сумна, — падтрымаў гаворку Дзяркач.
— Яно ж так: калі дождж, дык сапраўды сумна.
— Ага.
Памаўчалі.
— Заглянем у піўную? Мабыць, піва ёсць.
— Піва — гэта добра.
— А калі няма — дрэнна...
— Я люблю піва з воблай.
— А я магу і так.
— Не, з воблай лепш.
— І без воблы нядрэнна, калі піва добрае.
— Калі добрае, дык яно і сапраўды добра.
Ідуць да піўной, размаўляюць.
— А ў цябе, Цыбулькін, капейкі на піва ёсць?
— Няма, — гаворыць Дзяркач.
— Яно калі няма, то дрэнна.
— І сапраўды дрэнна.
— То, можа, разыдземся па хатах!
— Яно можна і па хатах...

**І. Макаловіч**



Зачакаўся...

**ДЗІВАК**

— Дзіўны тып: паўгадзіны стаіць у тэлефоннай будцы і маўчыць.
— А можа, ён з жонкай размаўляе?

**МІКОЛКА**

— Пагуляем у заапарк? — пытаецца ў сябра Міколка.
— А якая гэта гульня?
— Вельмі простая і прыемная. Я буду малпай, а ты прынясі з дому апельсіны...

# НІЎКА



**НЕРАЗБЯРЫХА**

*Выгляд маюць зухаваты:*
*І завіўкі, і штаны...*
*Ці то хлопцы, ці дзяўчаты?*
*Не пазнаеш, хто яны.*

*Мо ўлюбёных пара гэта?*
*Тут загадка не адна:*
*Разам кураць цыгарэты —*
*Хто ж з іх ён, а хто яна?*

*Між сабою размаўляюць,*
*Дзіўны нейкі ў іх жаргон.*
*Людзі дзівяцца, гадаюць:*
*Хто яна, а хто ж з іх ён?*

*Бавяць час у рэстаране*
*„Дэгустатары" віна,*
*Ды ўзнікае зноў пытанне:*
*Хто ж з іх ён, а хто яна?*

*Іх на танцах напаткаеш,*
*Шэйк танцуюць і чарльстон,*
*І ніяк не адгадаеш,*
*Хто яна, а хто з іх ён?*

*Так па горадзе гуляе*
*Пара гэта даўдна,*
*І ніхто не адгадае,*
*Хто з іх ён, а хто яна?*

**Алесь Махнач**



*— Памажы, доктар! Як за сто год пераваліла, горш скакаць стаў.*

**ПРЫЯЦЕЛЬКІ**

— Аб чым можна так доўга малоць з прыяцелькамі?
— З кожнай пра іншую...

**ЗАХАПЛЕННЕ**

Цацкі былі такія прыгожыя, што хацелася ўпасці ў дзяцінства.

**НА ПАДАЗРОНАСЦЬ**

— Вось вам лякарства ад падазронасці.
— Напэўна, яд, доктар?

**РАШЭННЕ**

Наскочыла каса на камень.
Рашэнне: касца трэба дыскваліфікаваць.



**...Найбольш ён думаў аб сябрах, для якіх не зрабіў нічога добрага.**

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*По просьбе Ніны Весялоўскай з Астражан змяшчаем савецкую песню*

## Белый танец

**Слова Игоря Шаферана**
**Музыка Давида Тухманова**

Музыка вновь слышна,
Встал пианист и танец
назвал.
И на глазах у всех
К Вам я сейчас иду
через зал.

Я пригласить хочу
на танец
Вас, и только Вас.
И не случайно этот
танец — вальс.
Вихрем закружит белый
танец,
Ох, и услужит белый
танец,
Если подружит белый
танец нас.

Вальс над землей
плывет,
Добрый, как друг,
и белый, как снег.
Может быть, этот вальс
Нам предстоит
запомнить навек.

Я пригласить хочу
на танец
Вас, и только Вас,
И не случайно этот
танец — вальс.
Вихрем закружит белый
танец,
Ох, и услужит белый
танец,
Если подружит белый
танец нас.




*— Кахае, не кахае...*

*З УЗБЕЦКАГА*







*Звышпадхалім.*

**МАТЭМАТЫК-САМАВУК**

— Таварышы курсанты! Амаль усе вы маеце сярэднюю адукацыю, а не можаце як след вылічыць працэнт ад ліку. Бярыце прыклад з Мошкіна. Ён чалавек у гадах, калісьці скончыў толькі пяць класаў, а працэнты гэтыя лускае, як семкі. Таварыш Мошкін, раскажыце ўсім, як вы гэтаму навучыліся?
— Практыка... Практыка ў мяне вялікая. Справа ў тым, што я ўжо дванаццаць гадоў плачу аліменты сваёй першай жонцы і сем гадоў — другой.

**НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ**

Банкір спытаў у начальніка паліцыі свайго раёна, што таму вядома аб кандыдаце на пасаду кіраўніка банкам.
Падумаўшы, начальнік паліцыі адказаў:
— Магу толькі сказаць, што ён джэнтльмен аж да адбіткаў пальцаў.

*

Дама ў рэстаране пытае свайго спадарожніка, які прагладае толькі што пададзены рахунак:
— Вы пабляднелі. Я штосьці не тое з'ела?

*

— Гавораць, ты развёўся яшчэ два разы з тых пор, як мы бачыліся.
— Што рабіць, я заўсёды выбіраю такіх цудоўных жанчын, што і іншыя хочуць з імі жаніцца.

# КУРЁЗЫ

**ТАТАЛЬНАЯ ТАТУІРОЎКА**

У ЗША адбыўся першы міжнародны з'езд татуіраваных людзей. Была тады і нагода правесці конкурс татуіроўкі. Стартавала 200 удзельнікаў. Нестар налічваў 75 год. Сярод „зорак татуіроўкі" не бракавала дырэктараў, вядомых спевакоў, прадстаўнікоў усіх асяроддзяў. Сярод жанчын пераважалі замужнія. У ЗША цвердзяць, што татуіроўка на жаночым целе вельмі прывабная. Найбольш ваўнічыя дамы лічаць, што права на татуіроўку з'яўляецца істотным сімвалам поўнага вызвалення жанчын. На здымку пераможца конкурсу. Татуіравацца пачаў у 14 год. Дайшоў бадай да татальнай татуіроўкі. Гледачы былі ў захапленні.



**ЗАГАДЧЫЦА Ў СТАЛЕ**

„Загадчыца клуба на гармоніі граць не ўмее і таму нерухома ляжыць у стале".
*(Са скаргі)*




*Варта сваю думку пра чалавека сказаць яму прама, калі ён пачынае глядзець на цябе коса.*